За першую палову 2019 года насельніцтва Беларусі зменшылася на 19 тысяч чалавек.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 59 (4414)**

30 ліпеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
***Тэл. (8 017) 328 68 71***

## З прызначэннем!

Учора Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні і назначыў:

**Салаўя Генадзя Міхайлавіча** – старшынёй Гомельскага аблвыканкама;

**Ліневіча Анатоля Канстанцінавіча** – памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – інспектарам па Віцебскай вобласці;

**Гур'янава Аляксандра Яўгенавіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сан-Марына па сумяшчальніцтве.

Прэзідэнт таксама даў згоду на назначэнне:

**Шубскага Аляксандра Мікалаевіча** – старшынёй Глыбоцкага райвыканкама;

**Гутарава Віктара Сяргеевіча** – старшынёй Шумілінскага райвыканкама;

**Сідарэнкі Аляксандра Мікалаевіча** – старшынёй Жыткавіцкага райвыканкама;

**Турука Андрэя Васільевіча** – старшынёй Кармянскага райвыканкама;

**Круковіча Яўгена Міхайлавіча** – старшынёй Валожынскага райвыканкама;

**Мельніка Валерыя Віктаравіча** – старшынёй Любанскага райвыканкама;

**Пілішчыка Сяргея Міхайлавіча** – старшынёй Капыльскага райвыканкама;

**Бутарава Аляксандра Міхайлавіча** – старшынёй Горацкага райвыканкама;

**Гулага Міхаіла Уладзіміравіча** – старшынёй Кіраўскага райвыканкама;

**Палоннікава Сцяпана Іванавіча** – старшынёй Круглянскага райвыканкама;

**Жыгуцкага Канстанціна Аляксандравіча** – старшынёй Асіповіцкага райвыканкама;

**Міхалюты Сяргея Валер'евіча** – старшынёй Слаўгарадскага райвыканкама;

**Уласевіча Віталя Эдуардавіча** – кіраўніком адміністрацыі Першамайскага раёна Бабруйска;

**Корчыка Дзмітрыя Аляксандравіча** – генеральным дырэктарам ААТ "Беларускі металургічны завод – кіруючая кампанія холдынга "Беларуская металургічная кампанія";

**Асмалоўскага Аляксандра Рыгоравіча** – старшынёй праўлення ААТ "Беларуская ўніверсальная таварная біржа";

**Кадлубая Аляксандра Уладзіміравіча** – намеснікам міністра адукацыі;

**Несцяровіча Сяргея Анатольевіча** – першым намеснікам міністра сувязі і інфарматызацыі;

**Якабсона Андрэя Львовіча** – намеснікам начальніка Беларускай чыгункі.

ПАРТНЁРСТВА

# Беларусь настроена на сумесную работу з Еўрапейскім Саюзам па пашырэнні дыялогу

Беларусь настроена на сумесную далейшую работу з Еўрапейскім Саюзам па пашырэнні палітычнага дыялогу і ўзаемавыгаднага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Аб гэтым заявіў міністр замежных спраў **Уладзімір Макей** на сустрэчы з кіраўніком прадстаўніцтва ЕС у Беларусі **Андрэа Віктарын** у сувязі з завяршэннем яе дыпламатычнай місіі, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МЗС.



Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства падкрэсліў важкі асабісты ўклад Андрэа Віктарын у працэс паступальнай нармалізацыі беларуска-еўрапейскіх адносін. За перыяд яе знаходжання на пасадзе пасла ЕС у Беларусі істотна актывізаваўся палітычны дыялог з выканаўчымі структурамі Еўрапейскага Саюза, набылі рэгулярны характар пасяджэнні каардынацыйнай групы Беларусь–ЕС і галіновых дыялогаў, пашырылася інвестыцыйнае ўзаемадзеянне, павялічыліся аб'ёмы тэхнічнай дапамогі Еўрасаюза для Беларусі. Бакі наблізіліся да падпісання пагадненняў аб спрашчэнні візавых працэдур і рэадмісіі.

Тавараабарот паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам у 2015–2018 гадах павялічыўся з 14,4 млрд долараў да 17,3 млрд долараў, у тым ліку экспарт Беларусі – з 8,6 млрд долараў да 10,2 млрд долараў.

У час сустрэчы размова ішла таксама аб перспектыўных задачах, якія стаяць у парадку дня Беларусь – ЕС. У прыватнасці, Уладзімір Макей падкрэсліў важнасць поўнай адмены Еўрасаюзам санкцый у адносінах да нашай краіны, хутчэйшага завяршэння працэсу ўзгаднення «Прыярытэтаў партнёрства» і запуску перагавораў па новым базавым пагадненні паміж Беларуссю і Еўрасаюзам.

«Са свайго боку Беларусь настроена на сумесную далейшую работу з ЕС па пашырэнні палітычнага дыялогу і ўзаемавыгаднага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, фарміраванні паўнацэннай двухбаковай дагаворна-прававой базы, напаўненні парадку дня ініцыятывы «Усходняе партнёрства» канкрэтным і карысным для грамадзян па абодва бакі граніцы зместам», – падкрэслілі ў МЗС. На заканчэнне Уладзімір Макей пажадаў Андрэа Віктарын далейшых поспехаў у яе дыпламатычнай кар'еры і выказаў надзею, што яе пераемнік на пасадзе кіраўніка прадстаўніцтва ЕС у Беларусі будзе вызначацца такой жа актыўнасцю і нацэленасцю на вынік у развіцці беларуска-еўрапейскага супрацоўніцтва.

СКАНДАЛ



# Кузнецов против Муковозчика



*Известный историк, исследователь сталинских репрессий Игорь Кузнецов пытается привлечь к уголовной ответственности автора газеты «СБ. Беларусь сегодня» Андрея Муковозчика.*

Пока на все его обращения в прокуратуру приходят отказы. Не находит наша милиция (заявление Кузнецова прокуратура переадресовала в РУВД) в опусе автора государственного издания нарушений ни Административного, ни Уголовного кодекса.

Ситуация не нова для Беларуси. Но этот случай весьма любопытен и порождает много вопросов. В своих ответах милиционеры анализируют, что такое честь, достоинство, клевета в публичном выступлении, и делают заключение, что Муковозчик всего лишь высказал свое мнение, а значит, закон не нарушил. У нас же в стране свобода слова! Но не создан ли прецедент? Не дан ли карт-бланш любителям сводить личные счеты, и теперь любой человек может публиковать в СМИ подобные выражения и не нести никакой юридической ответственности?

Но обо всем по порядку.

17 апреля на сайте «sb.by – Беларусь сегодня» появилась публикация Андрея Муковозчика «Лжеисторики. Есть такие «историки», которые поневоле заставляют сомневаться, наука ли она – их история». Лжеисториком автор назвал кандидата исторических наук Игоря Кузнецова. Ученого, безусловно, этот факт возмутил, и он обратился к главному редактору издания Д.Жуку с просьбой опровергнуть распространенные о нем «клеветнические измышления». В этой просьбе ему было отказано. Редакция ссылалась на то, что ни в коей мере не ставила под сомнения деловую репутацию Кузнецова, данная публикация – это мнение автора, а, согласно Закону о СМИ, в Беларуси каждому гарантируется свобода мнений, убеждений и их свободное выражение. В то же время в письме сообщалось, что данная статья будет удалена с сетевого издания sb.by. И она действительно была убрана из интернета.

Естественно, публикацию успели прочитать многие, в том числе коллеги, знакомые, родственники и идеологические противники Игоря Кузнецова. Историка такой ответ редакции на его претензию не удовлетворил, и он обратился в прокуратуру Советского района Минска с просьбой привлечь А.Муковозчика к ответственности. «*В публикации распространены заведомо неправдивые сведения о том, что кандидат наук Игорь Кузнецов является «лжеисториком»*, – отметил заявитель. – *Эти сведения не соответствуют действительности, унижают мои честь, достоинство и деловую репутацию как кандидата исторических наук, дипломированного специалиста в истории советских репрессий, доцента кафедры дипломатической и консульской службы факультета международных отношений БГУ*».

Как отмечалось выше, прокуратура перенаправила заявление Кузнецова в РУВД Советского района Минска, сказав, что это компетенция милиции. Оттуда историк получил ответ, что в результате проверки установлено: оснований для административного процесса по ст.9.2 КоАП Республики Беларусь (клевета) в отношении автора статьи «Лжеисторики» Муковозчика нет. Никаких подробностей о том, как проводилась проверка, Кузнецову не сообщили.

Такой ответ ученого, конечно же, не удовлетворил. И он снова написал заявление в прокуратуру, которое теперь уже было перенаправлено в ГУВД Мингорисполкома, а затем спущено вниз – провести повторную проверку вновь было поручено сотрудникам Советского РУВД.

23 июля Игорь Кузнецов получил очередной ответ из милиции. Правда, стоит отметить, что несколько раньше, 16 июля, в газете «СБ. Беларусь сегодня» появилась статья «Препарация одной диссертации о репрессиях». Ее автор некто Юрий Терех. Герой публикации – несложно догадаться – Игорь Кузнецов. Теперь уже печатное государственное издание задается вопросом, какое отношение к сталинским репрессиям на территории Беларуси имеет ученый, тема кандидатской диссертации которого – массовые репрессии в Западной Сибири в 1930-е годы и защищал ее Кузнецов в Томске в 1992 году. Естественно, за скобками остался тот факт, что на территории Западной Сибири находились на спецпоселении и в лагерях ГУЛАГа более 50 тысяч уроженцев Беларуси, из них более трех тысяч были расстреляны. После успешной защиты кандидатской Кузнецов в 1993 году вернулся в Беларусь и за это время по теме сталинских репрессий в СССР и Беларуси опубликовал в государственных и негосударственных СМИ нашей страны 396 статей, написал 6 книг – «Индекс уроженцев Беларуси, репрессированных в Западной Сибири в 1920–1940 гг.», «Конвейер смерти», «Возвращение памяти» и другие.

Досталось в той газетной статье Кузнецову и за его желание привлечь к ответственности тех, кто публично в СМИ называет его лжеисториком. «*И чему такой преподаватель сможет научить студентов? Писать на оппонентов кляузы в прокуратуру и ябедничать в «независимые» СМИ вместо отстаивания своей позиции в дискуссии?*» – задается вопросом так называемой Юрий Терех. В такой тональности выдержано все его «сочинение» на тему «Кто такой историк Игорь Кузнецов».

Но вернемся к ответу из Советского РУВД от 21 июля.

На этот раз вместе с постановлением об отказе в возбуждении уголовного дела Игорю Кузнецову пояснили, почему принято такое решение. Сообщалось, что был опрошен А.Муковозчик, который пояснил, что «*в опубликованной статье он не распространил ложные, позорящие другое лицо измышления. Так как высказал свое несогласие с приведенными данными Кузнецова И.Н.*». Далее милиционеры разъяснили ученому, что такое честь, достоинство и клевета в публичном выступлении, и по сути признали, что в публикации содержатся клеветнические измышления. Однако возбуждать дело в отношении Муковозчика не стали: «*В ходе проверки не получено достаточно данных, указывающих на то, что в действиях Муковозчика А.Н. усматривается состав преступления, предусмотренный ч.2 ст.188 УК Республики Беларусь, поскольку последний высказал свое личное мнение по материалам, предназначенным для распространения, за своей подписью*» – резюмировали милиционеры (сохранен стиль оригинала. – **Ред.**)

…24 июля Игорь Кузнецов снова обратился в прокуратуру Советского района. Он опять просит отменить предыдущее постановление Советского РУВД и направить материалы на дополнительную проверку с целью возбуждения уголовного дела.

Интересно, каким будет ответ на этот раз?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

# Жонка за мужам раней не паехала. А зараз?

*Некалькі фактаў пра новага памочніка прэзідэнта – інспектара па Віцебскай вобласці Анатоля Ліневіча.*

Першае, на што звяртаеш увагу, з Віцебшчынай у Ліневіча нічога не звязана. Нарадзіўся ён у 1968 годзе ў вёсцы Сухопаль Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі ў 1992 годзе вярнуўся ў родны раён. Пачынаў з начальніка мехатрада саўгаса «Ружанскі» Пружанскага раёна, потым стаў старшынёй калгаса імя Ленінскага камсамола, у 2002-м – дырэктарам ААТ "Жураўлінае" ў тым жа раёне.

У 2007 годзе Ліневіч пераязжае пад Мінск, у Мачулішчы. Тут ён узначальвае ААТ "Агракамбінат "Мачулішчы". А у 2011-м атрымлівае пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара ААТ "Кіруючая кампанія холдынга "Агракамбінат "Мачулішчы", у склад якога ўваходзіць 23 прадпрыемствы. У Мачулішчы пераязджае і сям'я Ліневіча.

У 2012 годзе Анатоль Ліневіч атрымлівае новае прызначэнне – першага намесніка старшыні Дзяржынскага райвыканкама. Праз чатыры гады, з сакавіка 2016-га – ён ужо старшыня Капыльскага райвыканкама Мінскай вобласці.



Адметна, што на Капыльшчыну Ліневіч прыязджае адзін. Ягоная жонка засталася ў Дзяржынску, яна выкладчыца рускай мовы і літаратуры. У Мачулішчах жыве дарослы сын чыноўніка.

Два гады таму Анатоль Ліневіч трапіў у невялікі скандал. На канале АНТ выйшаў сюжэт пра Капыльскі раён, адзін з эпізодаў быў зняты ў аўтамабілі: старшыня раёна расказваў журналістцы пра рабочыя моманты. Абодва не былі прышчэплены рамнямі бяспекі. Хтосьці напісаў заяву ў ДАІ. Ліневіча і журналістку аштрафавалі.

Увогуле, Ліневіч рэдкі госць на старонках СМІ. Ён не даваў інтэрв'ю нават раённай прэсе. Толькі летам 2016 года, праз 5 месяцаў пасля прызначэння на пасаду старшыні Капыльскага райвыканкама, у адным рэспубліканскім выданні з'явілася гутарка з Ліневічам, дзе ён досыць казённа разважаў, як арганізаваць працу на Капыльшчыне, каб палепшыць эканамічныя паказчыкі. Аднак наўрад ці сёння Капыльшчына можа пахваліцца высокімі дасягненнямі. У рэгіёне невысокі сярэдні заробак – 750 рублёў за май. За апошні час тут не з'явілася ніводнага новага прадпрыемства. Адзінае, што адзначаюць капыляне, – горад пры Ліневічы быў добраўпарадкаваны.

Дарэчы, папярэдні памочнік прэзідэнта – інспектар па Віцебскай вобласці Віталій Воўк, які знаходзіўся на гэтай пасадзе менш, чым год, у чэрвені быў прызначаны гендырэктарм МТЗ.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

# Забудьте о циститe навсегда!

- *Как понять, что у вас цистит?*
- *Можно ли вылечить хронический цистит?*
- *Кто чаще подвержен заболеванию: мужчины или женщины?*
- *Кто в зоне риска?*
- *Можно ли избавиться от цистита хирургическим путем?*
- *Поможет ли лазер в лечении цистита?*

На эти и многие другие вопросы читателей «Народной Воли» сегодня ответит уролог высшей категории, заведующая урологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Ольга Викторовна АНТОНОВА**.



Звоните **с 15.30 до 17.00 по телефону 328-68-41.**

Есть еще возможность прислать свои вопросы в первой половине дня на электронный адрес редакции: **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 ЛІПЕНЯ 2019 г.

АДРАДЖЭННЕ

# Валянцін ГОЛУБЕЎ:
# 27 ліпеня мы з Пазьняком на плошчы спявалі «Пагоню»

*27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Больш як праз год, 25 жніўня 1991 года, яна набыла канстытуцыйную сілу. Гэтыя два гістарычныя дні зрабілі нашу краіну сапраўды незалежнай.*

*27 ліпеня было абвешчана галоўным дзяржаўным святам – Днём незалежнасці Беларусі. Аднак пасля рэферэндуму 1996 года Дзень незалежнасці афіцыйна быў перанесены на 3 ліпеня.*

*Прапануем вам з матэрыялаў Свабоды гутарку з дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання, доктарам гістарычных навук Валянцінам ГОЛУБЕВЫМ.*


Courtesy Photo

**– У якой палітычнай абстаноўцы прымалася Дэкларацыя?**

– Я хачу зазначыць, што прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР было з'явай невыпадковай. І на гэта ўплывалі розныя прычыны. Па-першае, тое, што ўвесну 1990 года адбыліся выбары ў ВС БССР, у склад якога былі выбраны і дэмакратычна, антыкамуністычна настроеныя людзі.

Гэта ў асноўным прадстаўнікі БНФ, якія стварылі ў ВС фракцыю БНФ у складзе 27 чалавек на чале з Зянонам Пазьняком. А потым і апазіцыю БНФ у складзе 37 чалавек. Гэта было няшмат людзей, калі ўлічыць, што ўвесь ВС складаўся з 360 дэпутатаў. Дэпутаты апазіцыі кантактавалі са сваімі расійскімі, літоўскімі, украінскімі сябрамі. А ў іх працэсы імкнення да незалежнасці ішлі ў той час хутчэй, чым у Беларусі. Напрыклад, 18 мая 1989 года ВС Літвы прыняў ужо Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. А 10 сакавіка 1990 года ВС Літвы прыняў акт аб аднаўленні незалежнасці Літвы. І ў Маскве, і ў Кіеве адбывалася нешта падобнае. А ў Беларусі пра гэта, на жаль, ні ВС, ні ўрад не думаў. Дзякуй Богу, тады быў моцны БНФ, і мы пра гэта думалі. Адкрыта скажу – вельмі тады баяліся Савецкага Саюза і вельмі баяліся, што калі Расія стане незалежнай, то яна проста будзе цягнуць нас у сваю арбіту. Так і адбылося.

**– А якія падзеі папярэднічалі прыняццю Дэкларацыі?**

– Апазіцыя БНФ – напачатку нават у кантакце са старшынёй урада Вячаславам Францавічам Кебічам, з яго дазволу – ва ўрадавай рэзідэнцыі 26 красавіка 1990 года правяла канферэнцыю, у якой удзельнічалі дэмакратычныя дэпутаты ад Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Асноўная ідэя канферэнцыі – стварэнне Балтыйска-Чарнаморскай супольнасці. І першы дзень працы гэтай канферэнцыі прайшоў вельмі добра. Прадстаўнікі рэспублік дамовіліся, што яны будуць у справе набыцця незалежнасці кантактаваць. Было разуменне, што ідэя стварэння садружнасці ад Балтыйскага да Чорнага мора дазволіла б умацоўваць незалежнасць гэтых дзяржаў і мець пэўную падстрахоўку ад Расіі. І адразу думалі пра тое, каб пабудаваць Балтыйска-Чарнаморскі нафтавы калектар. Таму што ўсе выдатна разумелі, што асноўная пагроза будзе ісці праз энерганосьбіты.

На жаль, увечары 26 красавіка нам ужо забаранілі працаваць ва ўрадавай рэзідэнцыі. А запрошаных дэпутатаў з іншых рэспублік нават выселілі з нумароў-люксаў, у якіх яны жылі. На наступны дзень толькі БНФ ужо праводзіў гэтую канферэнцыю. І вынік атрымаўся не такі, як хацелася б. Але пытанне пра незалежнасць Беларусі ўжо было пастаўлена.

У маі 1990 года сойм БНФ прыняў заяву пра неабходнасць прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. У ёй гаварылася, што дасягненне дэмакратыі, суверэнітэту рэспублікі і выратавання нашага народа немагчыма ў складзе СССР. Цікава, што пасля таго, як мы распаўсюдзілі нашу заяву ў ВС, літаральна на наступны дзень ці праз пару дзён у Маскву паехаў колішні старшыня ВС БССР Мікалай Іванавіч Дземянцей. І калі ён на наступны дзень прыехаў з Масквы ў Мінск, то распаўсюдзіў дакумент, які называўся «Заяўка ВС БССР аб Дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі». Было гэта 13 чэрвеня. У гэтым дакуменце прагучалі некаторыя палажэнні, якія былі ў заяве сейма БНФ. І Дземянцей на сесіі сказаў, што ёсць сілы ў Беларусі, якія выступаюць за прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце, і што яго за гэта пахвалілі Гарбачоў, і таму ён выступае з такой заявай у ВС.

Што ж адбылося? Справа ў тым, што перад гэтым ужо адбыліся такія падзеі, як прыняцце дэкларацый аб абвяшчэнні незалежнасці Літвы, Латвіі, Эстоніі. А ў Маскве ў гэты час стала відавочнай канфрантацыя паміж урадам Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, які быў абраны ў сакавіку 1990 года прэзідэнтам СССР на з'ездзе народных дэпутатаў СССР, і кіраўніцтва РСФСР на чале з Барысам Мікалаевічам Ельцыным. І вось ВС РФ 12 чэрвеня абвясціў дзяржаўны суверэнітэт. І ў гэты ж дзень у Маскве адбылося пасяджэнне Савета Фэдэрацыі СССР з пытаннем аб нацыянальна-дзяржаўным уладкаванні СССР. Яно праходзіла пад старшынствам Гарбачова. Менавіта ў гэты дзень пачаўся распад Савецкага Саюза. Вярхоўны Савет РСФСР заявіў, што ён выходзіць з СССР, што РСФСР прымае дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Такім чынам, СССР застаўся без Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі і Расіі. Каб неяк выйсці з гэтай сітуацыі, Гарбачоў на гэтым апошнім пасяджэнні Савета Фэдэрацыі СССР даў задачу кіраўнікам парламентаў ВС распрацоўваць свае дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і пачаць падрыхтоўку новай саюзнай дамовы. Гэта была такая схаваная ідэя – быццам бы абвяшчаецца суверэнітэт, але мэта ягоная – заключэнне новай саюзнай дамовы і захаванне СССР.

Мы гэтага тады яшчэ не ведалі. Запіску гэтую прынялі. А Фронт пачаў рыхтаваць канферэнцыю аб незалежнасці. І яна была праведзена ў Мінску 30 чэрвеня – 1 ліпеня 1990 года. Там у нас упершыню быў распрацаваны першы праект Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі. Гэта быў не той дакумент, які быў пасля прыняты ВС, пасля быў новы варыянт. Але першы праект утрымліваў дзве часткі. Адна частка – гістарычныя палажэнні, у якіх паказвалася, што суверэннасць беларускай дзяржавы мае выток у незалежнасці Полацкага княства і ВКЛ. Мы гаварылі пра вызваленчае паўстанне, мы становіліся на аснове ацэньвалі БНР і БССР. Там сцвярджалася, што падпісанне прадстаўніком БССР саюзнай дамовы 1922 года не мела юрыдычнай сілы, бо гэта рашэнне было прынята пад дыктоўку Масквы ва ўмовах таталітарнага рэжыму і акупацыі, без правядзення рэферэндуму і, самае галоўнае, без ратыфікацыі рэспублікай гэтага акта. Рабілася выснова, што ўсё гэта дае права ВС БССР не заключаць новую саюзную дамову і дэнансаваць дамову 1922 года ў аднабаковым парадку. Другая частка – гэта, можа, трошкі па-іншаму напісаны тэкст цяперашняй Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. І гэты праект ужо 2 ліпеня 1990 года быў распаўсюджаны ў Вярхоўным Савеце з ініцыятывы дэпутатаў апазіцыі БНФ у колькасці 360 экзэмпляраў і прапанавана да разгляду.

**– І як паставіліся дэпутаты да такога дакумента?**

– Калі папраўдзе, то ён выклікаў у прадстаўнікоў парламенцкай большасці сапраўдны шок. Тады партыйныя савецкія функцыянеры не маглі нават уявіць: як гэта можна было адважыцца выступіць з прапановай аб выхадзе Беларусі са складу СССР і заявіць пра нейкі там суверэнітэт? Мы заявілі не проста прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце, бо Дэкларацыя – гэта проста заява. А мы выступілі з прапановай аб выхадзе Беларусі са складу СССР.

А што адбылося далей у ВС? Каб прынізіць значэнне гэтага дакумента, было арганізавана напісанне адмоўнай рэцэнзіі на гэты праект. 10 ліпеня 1990 года як быццам у адказ на запыт ананімных народных дэпутатаў БССР у Вярхоўным Савеце была распаўсюджана даведка пад назвай «Аб праекце Дэкларацыі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, прадстаўленай групай БНФ «Адраджэньне». Падпісана яна была загадчыкам аддзела гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны Інстытута гісторыі АН БССР акадэмікам Ігнаценкам, намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі доктарам гістарычных навук Міхаілам Бічом, начальнікам галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Міхальчанкам, намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі партыі Смірновым і загадчыкам сектара гісторыі партыі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Сташкевічам. І ўжо ў прэамбуле дакумента, які быў падпісаны ўсімі гэтай пяцёркай, давалася адмоўная ацэнка праекта Дэкларацыі аб дзяржаўнай незалежнасці. І рабілася выснова, што аналіз прапанаванага тэксту пераконвае, што дадзенаму праекту ў сваёй гістарычнай і палітыка-прававой частцы ўласціва аднабаковасць характарыстык і ацэнак і непрадуманасць унесеных прапаноў. І рабілася выснова, што Беларусі незалежнасць не трэба.

Для нас гэта была пэўная нечаканасць. Але тут на дапамогу апазіцыі ў ВС прыйшлі іншыя вучоныя. Справа ў тым, што дэпутаты ВС Алег Трусаў і я папрасілі двух беларускіх вучоных – доктара гістарычных навук прафесара Анатоля Грыцкевіча і кандыдата гістарычных навук Віталя Скалабана – напісаць рэцэнзію на гэтую «даведку пяцёх». Гэта быў сапраўдны мужны крок. Яны абодва маглі не проста страціць працу. Яны ў сваёй рэцэнзіі адкрыта ішлі супраць так званай «партыйнай лініі». Але яны яе напісалі, а мы распаўсюдзілі ў Вярхоўным Савеце.

Дэпутаты вельмі паважалі вучоных. Яны разумелі, што першая даведка прапала палітычная, а другая даведка была напісана вельмі разумна. І яны пачалі ўжо, што называецца, сумнявацца. А тут яшчэ іншыя падзеі – прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў Расіі, рэферэндум па незалежнасці ва Украіне. І пытанне ўжо стала так: а што, мы горшыя?! Давайце ўжо і мы прымаць такую Дэкларацыю.

**– Часта згадваюць, што апазіцыя БНФ не прымала ўдзелу ў галасаванні за Дэкларацыю.**

– Справа ў тым, што ішла ўстаноўка з Масквы: дэкларацыя дэкларацыяй, але ў ёй павінны быць словы пра тое, што Беларусь выступае за заключэнне новай саюзнай дамовы. Гэтая дамова фактычна нівелявала б гэтую дэкларацыю, звяла б на нішто. І вось заўжды пытаюцца: чаму апазіцыя не ўдзельнічала ў галасаванні за Дэкларацыю? Мы сапраўды хацелі яшчэ працаваць, не спадзяваліся, што 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя будзе прынята. Мы хацелі зацягнуць яшчэ на некалькі дзён. Пераканаць дэпутатаў у тым, што нельга пісаць у Дэкларацыі незалежнасці заяву аб тым, што неабходна заключыць новую саюзную дамову. Гэтыя словы былі лішнія. Мы баяліся, што гэта сапраўды будзе выкарыстана супраць нас. І каб не путч 1991 года, гэта сапраўды магло б адбыцца.

Таму калі дайшло да галасавання па гэтым пункце, што Беларусь выступае за падпісанне новай саюзнай дамовы, на заклік Зянона Пазьняка дэпутаты апазіцыі выйшлі з залы. І разлік быў у тым, што Дэкларацыя ў гэты дзень не будзе прынята. Але ў піку таму, што мы выйшлі, там і іншыя дэмакратычныя дэпутаты, якія не былі ў апазіцыі, той жа Анатоль Вярцінскі, разумна сыгралі на эмоцыях, сказалі: «Ах, апазіцыя выйшла, давайце без іх прагаласуем». Вось прагаласавалі, і дзякуй богу, што Дэкларацыя была прынята. А потым ужо 25 жніўня 1991 года, калі яна набыла статус канстытуцыйнага закона, то гэты пункт аб заключэнні новай саюзнай дамовы перастаў мець юрыдычнае значэнне. Бо Канстытуцыя была вышэйшая за Дэкларацыю. А ў Канстытуцыі не гаварылася ні пра якую саюзную дамову.

**– Як цяпер згадваеце гэтыя дні?**

– Мне гэтыя два дні, 27 ліпеня 1990 года і 25 жніўня 1991 года, вельмі запомніліся. Яны звязаны паміж сабой. Праўда, у ліпені 1990 года людзей было трохі менш, чым у жніўні. Але ў 1990 годзе ішла прамая трансляцыя з пасяджэнняў ВС. І калі было зразумела, што Дэкларацыя аб незалежнасці прынята, вечарам на плошчу Леніна прыйшло некалькі дзясяткаў тысяч людзей. Людзі прыйшлі святкаваць, спявалі песні, радаваліся, танцавалі, абдымаліся. Памятаю, што дэпутат Пятро Садоўскі спяваў. Мы стаялі з Пазьняком, спявалі «Пагоню». Упершыню наша краіна сапраўды моцна, крэпка, заканадаўча стала на шлях незалежнасці. Гэта аб'яднанне людзей, яднанне нацыі, жаданне жыць у незалежнай дзяржаве. Каб зараз людзі не баяліся АМАПу, не баяліся пасадак, што яны за незалежнасць, то думаю, што яны прыйшлі б і яшчэ раз зрабілі свята.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Імітацыя
## рэанімацыі дзейнасці палітычных партый

*Міністэрства юстыцыі вынесла на разгляд праект новай рэдакцыі закона «Аб палітычных партыях». Скажу адразу: прапанаваныя змены недастатковыя для таго, каб запусціць палітычную сістэму Беларусі і зрабіць палітычныя партыі не намінальнымі, а рэальнымі суб'ектамі палітыкі.*

### Пытанні, якія трэба вырашаць у першую чаргу

У прадстаўнікоў дэмакратычных партый і арганізацый ёсць тры асноўныя прапановы, якія могуць істотна палепшыць жыццё палітычным партыям. З імі згодныя ўсе 11 палітычных партый, аргкамітэтаў па стварэнні палітычных партый і грамадскіх арганізацый, якія ўдзельнічаюць у праекце беларуска-шведскага супрацоўніцтва «Паглыбленны дыялог».

Першая змена – увядзенне дзяржаўнага фінансавання палітычных партый, чые прадстаўнікі патрапілі ў парламент.

Другая змена – прапісаць дакладны механізм доступу прадстаўнікоў палітычных партый да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Трэцяя змена – спрасціць працэдуру рэгістрацыі палітычных партый, а таксама гарантаваць ім роўнасць умоў для працы.

### Як прапанаваныя змены паўплываюць на працу дэмакратычных арганізацый…

Арт.6 Закона «Аб палітычных партыях» прапануецца ў такім варыянце:

*«Дзяржава можа аказваць палітычным партыям, саюзам інфармацыйную, метадычную і іншую падтрымку.*

*Дзяржаўная падтрымка палітычных партый, саюзаў засноўваецца на прынцыпах законнасці, партнёрства, празрыстасці, раўнапраўя, узгодненасці і адказнасці».*

Ускосна словы «*іншую падтрымку*» можна разумець як тое, што пры палітычнай волі можа быць і дзяржаўнае фінансаванне палітычных партый, аднак у такім разе ў арт.24 закона застаюцца нязменнымі фармулёўкі аб тым, што:

*«Фінансаванне палітычных партый, саюзаў за кошт сродкаў рэспубліканскага і (альбо) мясцовых бюджэтаў не дапускаецца.*

*Дзяржаўныя органы і іншыя дзяржаўныя арганізацыі не маюць права фінансаваць палітычныя партыі, саюзы».*

Фактычна наяўнасць гэтага артыкула ў прапанавай рэдакцыі закона ставіць крыж на магчымасці фінансаваць палітычныя партыі з бюджэту.

У праекце новай рэдакцыі закона гаворыцца, што дзяржава ***можа*** аказваць палітычным партыям, саюзам інфармацыйную падтрымку.

Аднак гэтая фармулёўка дапускае такі варыянт: можа, калі захоча, а калі не захоча, то аказваць падтрымку дзяржава не абавязана.

Фактычна замацоўваецца прынцып парушэння раўнапраўя датычна да палітычных партый, якія і так падзелены на два лагеры – лаяльныя да дзеючай улады і тыя, што знаходзяцца да яе ў апазіцыі.

Гэтая фармулёўка ўзаконівае гэтую няроўнасць, якая ўжо склалася паміж партыямі і заключаецца ў тым, што ў адпаведнасці з пастановай Савета міністраў Камуністычная партыя Беларусі і Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці маюць казфіцыенты 0,1 пры арэндзе офісаў з фонду дзяржаўнай маёмасці. Іншыя палітычныя арганізацыі такой палёгкі не маюць, а тыя партыі, якія звярталіся з просьбай знізіць ім казфіцыенты пры арэндзе памяшканняў з дзяржаўнага фонду маёмасці, атрымалі адмову.

Спрашчэнне працэдуры рэгістрацыі палітычных партый заключаецца ў зніжэнні колькасці заснавальнікаў з 1000 да 800 чалавек, а таксама замены ў звестках «хатняга і рабочага тэлефона» на «кантактны тэлефон». У новай рэдакцыі закона прапануецца дазволіць рэгістрацыю палітычных партый і іх рэгіянальных структур у аднакватэрных, блакіраваных жылых дамах, альбо іх частках. Для гэтага будзе патрэбны дакумент, які пацвярджае ўзгадненне з мясцовым выканаўчым і распарадчым органам выкарыстання памяшкання не па прызначэнні.

Аднак дадаткова пры заснаванні палітычнай партыі ўводзіцца прадастаўленне дакументаў у Мінюст аб абранні дэлегатаў на з'езд партыі.

Тым не менш як рэгістрацыя партыі, так і магчымасць рэгістраваць яе арганізацыйныя структуры ў прыватных дамах залежыць, як бачым, выключна ад палітычнай волі ўлады.

Самым непрыемным момантам для палітычных партый з'яўляецца ўвядзенне для іх дадатковай фінансавай справаздачнасці, якую яны павінны прадастаўляць у свабодным доступе праз свае афіцыйныя сайты, альбо праз іншыя сродкі масавай інфармацыі. Склад гэтых звестак яшчэ мусіць вызначыць Савет міністраў.

Акрамя таго, прапануецца, каб выдаткі палітычнай партыі, саюза на аплату працы іх работнікаў не перавышалі 40 працэнтаў ад сумы ўсіх даходаў палітычнай партыі, саюза за справаздачны перыяд, але не былі меншымі за мінімальны заробак, устаноўлены ў краіне. Фактычна гэта выглядае так – дзяржава грошы на працу партый не дае, аднак хоча не толькі кантраляваць сродкі, за якія жывуць партыі, дык яшчэ і вызначаць, як іх ім траціць.

Усе астатнія змены, якія прапануюцца Мінюстам, носяць выключна касметычны характар.

### Не ў аднолькавых умовах

У праекце новай рэдакцыі закона таксама прапануецца варыянт вырашэння пытання з юрыдычнымі офісамі для палітычных партый.

Акрамя таго што партыі могуць мець юрыдычны адрас у прыватным доме, прапануецца прадастаўць ім магчымасць размяшчаць кіруючы орган арганізацыйнай структуры па месцы работы яе кіраўніка, праўда, пры ўмове атрымання пісьмовай згоды юрыдычнай асобы, якая з'яўляецца яго працадаўцам. Фактычна гэтае новаўвядзенне адзяржаўлівае палітычныя партыі, бо кіраўнікі палітычных партый і арганізацый, лаяльных да ўлады, атрымліваюць значныя палёгкі на атрыманне юрыдычнага адраса па месцы сваёй працы. Акрамя таго, яны маюць магчымасць весці палітычную дзейнасць па месцы сваёй асноўнай працы, а таксама магчымасць папаўняць шэрагі палітычнай партыі за кошт работнікаў арганізацыі. Такім чынам для палітычных партый ствараюцца няроўныя ўмовы.

Такая норма вельмі выгадна, напрыклад, для ГА «Белая Русь», якая пры пераходзе з грамадскай арганізацыі ў палітычную партыю не страціць ні адзін юрыдычны адрас.

### Каго «за вушы» цягнуць, а каму падножкі ставяць

На сённяшні дзень палітычныя партыі, якія з'яўляюцца апазіцыйнымі ў адносінах да ўлад, абстаўлены «чырвонымі сцяжкамі» ў выглядзе Выбарчага кодэкса, Закона «Аб палітычных партыях» і Закона «Аб масавых мерапрыемствах», якія не дазваляюць ім паўнавартасна ўдзельнічаць у выбарчых, арганізацыйных і мабілізацыйных кампаніях. Відавочна і тое, што ўлады імкнуцца стварыць ілюзію палітычнай барацьбы ў парламенце, робячы стаўку на лаяльныя партыі.

У Палату прадстаўнікоў фактычна «за вушы» прыцягваюцца кандыдаты ад Камуністычнай партыі Беларусі, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Функцыю кансерватыўнай партыі пры такой канфігурацыі мусіць выконваць «Белая Русь».

Ускосна прасочваецца аналогія з Дзярждумай Расійскай Федэрацыі, у якой ёсць «Единая Россия» (аналаг нашай «Белай Русі»), Либерально-демократическая партия России (аналаг ЛДП), Коммунистическая партия России (аналаг КПБ), «Справедливая Россия» (аналаг РППС).

Пры такой канфігурацыі ўжо сёння можна адкрыта гаварыць пра міжпартыйнае супрацоўніцтва паміж блізкімі па ідэалогіі арганізацыямі пры будаўніцтве «саюзнай дзяржавы». Пры гэтым можна забыць пра плюралізм, саперніцтва, выяўленне розных пунктаў гледжання.

**Ігар БАРЫСАЎ,**
**старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).**

